# Голас Радзімы

№ 10 (2100)
9 сакавіка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.

«У Марыі Леанідаўны ёсць урок, які не ўключаны ў расклад. Але ён традыцыйны. Праводзіцца для выпускнікоў і іх бацькоў. Гэта ўрок жыцця, урок сумлення і шчырасці. Як бы наказ на дарогу: быць заўсёды разумнымі, добрымі, чалавечнымі. І ўрок гэты незабыўны. Пры сустрэчах яго абавязкова ўспамінае кожны — і той, хто скончыў школу нядаўна, і той, хто развітаўся з ёю ўжо шмат гадоў назад. Настаўніца Федзяцова, як і ўсе папярэднія, стварыла яго сама».

Пра ўрокі настаўніцы М. Федзяцовай, якую вы бачыце на гэтым здымку, чытайце на стар. 3. («Вучні, бывае, завуць мамай»).

Фота С. КРЫЦКАГА.



СУСТРЭЧЫ І ГУТАРКІ

## ЗНАХОДЖАННЕ САКРАТАРА ЦК КПСС В. МЯДЗВЕДЗЕВА Ў МІНСКУ



У Мінску пабываў член Палітбюро, сакратар ЦК КПСС Вадзім Мядзведзеў. Госць наведаў Мінскае вытворчае аб'яднанне «Інтэграл», Мінскі радыётэхнічны інстытут, Выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі, Акадэмію навук БССР, гутарыў з працоўнымі сталіцы.

Перабудова, народжаная ў ходзе глыбокага пераасэнсавання грамадскіх працэсаў, навуковага аналізу гістарычных урокаў пройдзенага краінай шляху, і сёння мае патрэбу ў магутнай інтэлектуальнай надтрымцы. Гэта думка стала лейтматывам сустрэчы В. Мядзведзева з кіраўнікамі творчых саюзаў рэспублікі, прадстаўнікамі мастацкай інтэлігенцыі. У ходзе гутаркі адбыўся свабодны абмен думкамі аб месцы і ролі творчай інтэлігенцыі ў працэсе перабудовы, павышэнні духоўнасці і маралі ў жыцці грамадства, умацаванні сацыялістычных ідэалаў.

Старшыня Саюза тэатральных дзеячаў БССР Мікалай Яроменка расказаў аб станаўленні нядаўна створанага таварыства, яго планах і клопатах. Першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Ніл Гілевіч сярод іншага выказаў свае адносіны да праблемы беларускай мовы і нацы нальнай культуры. Таксама падзяліліся меркаваннямі па праблемах культуры, духоўнага выхавання чалавека народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, народны мастак СССР Заір Азгур, кінарэжысёр Віктар Дашук, старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР Уладзімір Стальмашонак, старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР Ігар Лучанок.

На сустрэчы з вучонымі АН БССР былі абмеркаваны актуальныя праблемы развіцця навуковых даследаванняў у рэспубліцы, узмацнення іх уплыву на працэсы перабудовы эканамічнага і сацыяльнага жыцця.

Прэзідэнт АН БССР акадэмік Уладзімір Платонаў, іншыя выступіўшыя падкрэслілі, што асноўныя намаганні акадэміі сёння накіраваны на развіццё прыярытэтных напрамкаў, дзе дасягненні беларускіх вучоных найбольш важкія і дзе чакаюцца вынікі сусветнага ўзроўню, — машынабудаванне, радыёэлектроніку, сельскую гаспадарку.

В. Мядзведзеў у сваю чаргу адзначыў, што партыя і ўрад надаюць рашаючае значэнне развіццю навукі і ні адно важнае для краіны рашэнне не прымаецца без удзелу вучоных.

Праблемы статуса нацыянальных моў былі закрануты на сустрэчы з працоўнымі Мінска. У прыватнасці, В. Мядзведзеў адзначыў: «Перабудова адкінула вялікадзяржаўную думку, быццам клопаты аб нацыянальнай мове — нешта падазронае або нават нацыяналістычнае, уяўленне, што мець менш моў — гэта, маўляў, і «больш прагрэсіўна», і «больш зручна». Наша прынцыповая праграма заключаецца ў тым, каб даць самы шырокі прастор аб'ектыўным працэсам развіцця моў народаў СССР, забяспечыць гэта развіццё гарантыямі — юрыдычнымі, палітычнымі, эканамічнымі, сацыяльнымі, не дапускаючы тут якога-небудзь адміністрацыйнага націску.

Пры гэтым, зразумела, нельга вырашыць праблемы адной нацыянальнай мовы за кошт другой, за кошт адасаблення адной культуры ад другой».

У сустрэчах і гутарках з мінчанамі разам з В. Мядзведзевым прынялі ўдзел кіраўнікі Камуністычнай партыі і ўрада БССР.

**НА ЗДЫМКУ:** у час сустрэчы **В. МЯДЗВЕДЗЕВА** ў радыётэхнічным інстытуце.

ПАДПІСАНЫ ПРАТАКОЛ

## КУЛЬТУРНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Міністр культуры БССР Яўгеній Вайтовіч і міністр культуры і мастацтва ПНР Аляксандр Краўчук падпісалі ў Варшаве ў канцы лютага пратакол аб культурным супрацоўніцтве на 1989—1990 гады.

Дакумент прадугледжвае пашырэнне ўзаемных кантактаў паміж творчай інтэлігенцыяй, установамі культуры, ажыўленне культурнага абмену не толькі прыгранічных рэгіёнаў, але і рэспублік у цэлым. Супрацоўніцтва ахопіць усе без выключэння галіны культуры і мастацтва.

Да прыкладу, умацуюцца сувязі і супрацоўніцтва паміж музеем Адама Міцкевіча ў Навагрудку і літаратурным музеем у Варшаве, тэатрам Янкі Купалы ў Мінску і Старым тэатрам у Кракаве, прадоўжаць творчае пабрацімства Беларускі акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета і Вроцлаўская опера. Абяцаюць быць плённымі кантакты паміж беларускімі і польскімі кінематаграфістамі, мастакамі. Апошнія прымуць удзел у міжнародных выстаўках плаката ў Варшаве і графікі ў Кракаве. Прадугледжаны абмен выстаўкамі польскіх і беларускіх мастакоў, сумеснае правядзенне фестываляў польскай песні ў Віцебску, супрацоўніцтва пры ўзвядзенні помніка Станіславу Манюшку ў Мінску.

БССР НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

## КАНВЕНЦЫЯ ААН

Ад імя ўрада Беларускай ССР у Венскім міжнародным цэнтры ААН пастаянны прадстаўнік рэспублікі пры міжнародных арганізацыях у Вене В. Баравікоў падпісаў Канвенцыю ААН аб барацьбе супраць незаконнага абароту наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў. Гэты дакумент быў распрацаваны і прыняты на міжнароднай канферэнцыі, якая адбылася ў аўстрыйскай сталіцы ў снежні мінулага года. Да цяперашняга часу Канвенцыю падпісалі каля 60 дзяржаў.

МАЛАДЗЁЖНЫЯ СПРАВЫ

## ДЗЕЛАВАЯ ДЫСКУСІЯ

Каля сарака маладзёжных лідэраў з розных куткоў краіны разам са сваімі даверанымі асобамі сабраліся ў Мінску для ўдзелу ў вялікай дыскусіі па праекту перадвыбарнай платформы Усесаюзнай камсамольскай арганізацыі. Сярод прэтэндэнтаў на дэпутацкія мандаты — электразваршчык з Мінска Ігар Абламейка, намеснік дырэктара па рабоце з моладдзю Бабруйскай швейнай фабрыкі Сяргей Калашнікаў і камсамольскі работнік Павел Шацько.

У працоўных і студэнцкіх калектывах адбыліся сустрэчы кандыдатаў у народныя дэпутаты СССР ад Ленінскага камсамола. Яны пабывалі на трактарным заводзе, у вытворчым аб'яднанні «Інтэграл», у аўдыторыях Белдзяржуніверсітэта, тэхналагічнага інстытута, у Акадэміі навук БССР.

Асабліва гарачая спрэчка разгарнулася вакол той часткі праекта платформы камсамола, дзе гаворыцца аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы.

Мінская сустрэча дапамагла прэтэндэнтам у родныя выбраннікі больш дакладна вызнач сваю пазіцыю, даведацца пра настрой і патрабаванні беларускай моладзі.

УСЕСАЮЗНЫ СЕМІНАР

## ПЕРАБУДОВА І МАРАЛЬ

На ўсесаюзным семінары лектараў па тэме таляванне высокай маралі — важная ўмова ажыццяўлення перабудовы», які завяршыўся ў Мінску, абмеркаваны пытанні фарміравання духоўных і маральных каштоўнасцей савецкага чалавека ў сучасных умовах, праблемы адукацыі і выхавання.

У рамках семінара праведзены сустрэчы за «круглым сталом» і дыскусіі: «Прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей. Праблемы чалавечнасці і міласэрнасці ў савецкім грамадстве», «Экалогія, эканоміка, мараль». Адбылася творчая сустрэча з народным мастаком СССР М. Савіцкім.

МІТЫНГІ



**У Мінску захоўваюць памяць пра нямецкага антыфашыста, Героя Савецкага Саюза Фрыца Шменкеля. Нядаўна ў горадзе адбыўся мітынг, прысвечаны памяці героя. Да мемарыяльнай дошкі былі ўскладзены кветкі. На мітынгу прысутнічала ўнучка героя — Яна Шменкель.**

**НА ЗДЫМКУ: кветкі да мемарыяльнай дошкі Ф. Шменкеля.**

КАНДЫДАТЫ Ў ДЭПУТАТЫ

## ЗАЛАТЫ ФОНД ГРАМАДСТВА

Залаты фонд грамадства — ветэраны многае могуць і абавязаны зрабіць у выхаванні маладога пакалення. Гэта думка вызначыла характар сустрэчы Гомельскага абласнога ветэранскага актыву з кандыдатамі ў народныя дэпутаты СССР ад Усесаюзнай арганізацыі ветэранаў вайны і працы старшынёй Усесаюзнага савета ветэранаў Кірылам Мазуравым і старшынёй Беларускага рэспубліканскага савета ветэранаў Анатолем Андрэевым.

Цёпла і сардэчна сустрэлі землякі вядомага савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча К. Мазурава. Многае звязана ў яго з Гомелем: тут у 1940—1941 гадах ён узначальваў гарадскі камітэт камсамола, часта прыязджаў сюды па справах, калі быў першым сакратаром ЦК КП Беларусі, пастаянна цікавіўся развіццём народнай гаспадаркі вобласці, знаходзячыся на адказнай пасадзе ва ўрадзе краіны.

На сустрэчы з кандыдатамі закраналіся злабадзённыя пытанні сённяшняга становішча ў грамадстве.

АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ

# ПАСЛЯ АФГАНІСТАНА

У рэспубліканскай прэсе надрукаваны пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, скіраваныя на павышэнне ўвагі грамадства да патрэб былых воінаў-інтэрнацыяналістаў і сем'яў загінуўшых у Афганістане і аказанне ім адпаведнай дапамогі.

Пастановы прадугледжваюць правесці абследаванне матэрыяльна-бытавых умоў жыцця былых воінаў-інтэрнацыяналістаў і сем'яў загінуўшых у Афганістане спецыяльнымі камісіямі мясцовых Саветаў, аказанне дапамогі ў вырашэнні сацыяльна-бытавых патрэб. Для прыняцця рашэнняў на рэспубліканскім узроўні арганізуецца адпаведная камісія пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР. Яе старшыня—намеснік старшыні Дзяржплана БССР Сяргей Лінг.

У пастановах прызнана таксама неабходным устанаўліваць ваеннаслужачым, якія сталі інвалідамі ў час службы ў Афганістане, і сем'ям загінуўшых персанальныя пенсіі рэспубліканскага значэння.

Адначасова пад загалоўкам «Тварам да патрэб воінаў-інтэрнацыяналістаў» было надрукавана інтэрв'ю сакратара ЦК Кампартыі Беларусі В. Пячэннікава. У ім, у прыватнасці, ён сказаў:

— У Беларусі зараз жыве больш за 16 тысяч чалавек, якія выконвалі інтэрнацыянальны абавязак у складзе савецкіх войск у Афганістане. На жаль, ніякая вайна не абыходзіцца без ахвяр. У баях на афганскай зямлі загінула 760 нашых землякоў. Яшчэ 433 сталі інвалідамі. Савецкія салдаты ішлі на афганскую зямлю з высакароднымі мэтамі. І не іх віна ў тым, што ў афганскі касцёр падкладваліся чужыя паленні. Яны сумленна выканалі свой абавязак, у экстрэмальных сітуацыях паказалі, што ў поўнай меры дастойныя славы бацькоў.

Воіны-інтэрнацыяналісты не заслужылі папрокаў і не маюць патрэбы ў суцяшэнні. Ім патрэбны разуменне і справядлівыя адносіны. Не сакрэт, што вяртанне да мірнага жыцця далёка не заўсёды праходзіць лёгка. Тым больш, што не ўсё тут залежыць ад саміх «афганцаў».

В. Пячэннікаў падкрэсліў, што людзі, загартаваныя ў цяжкіх выпрабаваннях, якія маюць абвостранае пачуццё справядлівасці і непрымірымасці да недахопаў, вельмі патрэбны перабудове. Менавіта такім баявым народам і ў грамадзянскім жыцці з'яўляюцца тыя, хто прайшоў «школу Афганістана». Прэса ўжо паведамляла пра Пятра Петрашкевіча і Генадзя Броўку, якія нават без нагі працягваюць працаваць трактарыстамі. Ёсць калектывы, дзе працуюць цэлыя атрады былых воінаў-інтэрнацыяналістаў. Напрыклад, на Мінскім аўтазаводзе — 141, на трактарным — 150 чалавек.

Разам з тым, адзначалася ў інтэрв'ю, адносіны да інтэрнацыяналістаў не заўсёды і не ўсюды такія, якіх яны заслужылі. Сказанае, зразумела, не азначае, што ў гэтым плане нічога не робіцца. Інвалідам і сем'ям загінуўшых вылучана без чаргі ў рэспубліцы больш тысячы кватэр. Каля 2 500 чалавек пастаўлена на льготную чаргу. Выдаюцца пуцёўкі тым, хто мае патрэбу ў санаторным лячэнні, выплачваюцца павышаныя стыпендыі. І ўсё ж ёсць факты няўважлівага, проста чэрствага падыходу да патрэб інвалідаў, сем'яў загінуўшых воінаў. Здараецца «афганцам» многа разоў стукацца ў розныя кабінеты і нават выслухоўваць незаслужаныя папрокі і абвінавачанні ў свой адрас. Праведзеная масавая праверка пацвердзіла абгрунтаванасць скаргаў. Было вырашана арганізаваць сустрэчу з воінамі-інтэрнацыяналістамі ў ЦК КП Беларусі і пагутарыць з імі па ўсіх праблемах. Такая сустрэча адбылася. Пастаўленыя ў ходзе яе пытанні былі ўважліва вывучаны, па іх прынята спецыяльная пастанова Бюро ЦК. Гэты дакумент складаўся такім чынам, каб максімальна ўлічыць патрэбы ветэранаў Афганістана і задаволіць іх у адпаведнасці з заслугамі.

ТВОРЧЫЯ ЗНАХОДКІ ЛАЎРЭАТА ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ НАСТАЎНІЦЫ МАРЫІ ФЕДЗЯЦОВАЙ

# ВУЧНІ, БЫВАЕ, ЗАВУЦЬ МАМАЙ

...Міналі адзін за адным месяцы, а першакласніца Аленка ніяк не магла навучыцца чытаць. Старалася яе настаўніца, дапамагалі бацькі — усё было марна. Пра бяду даведалася педагог з іншай школы. Прыслала дзяўчынцы незвычайную кніжку-чарадзейку, і першакласніца пачала чытаць.

З гэтага вось расказу, пачутага ў Оршы, і пачалося маё знаёмства з Марыяй Федзяцовай, педагогам пачатковых класаў аршанскай сярэдняй школы № 7. Дарэчы, кніжка-памочніца была створана яе таленавітымі рукамі.

## НЯЎРЫМСЛІВАЯ МАША ЗАМЫШЛЯЕВА

З чаго ўсё пачыналася? Як і ў многіх: з дзяцінства. Яно ў Марыі Леанідаўны было нялёгкім. Быў такі час — нават працавала памочнікам каваля ў вясковай кузні. Адтуль, з юнацтва, перанесла працавітасць у школу. Можа таму, нібы шкадуючы за самаахвярнасць, лёс быў літасцівы да яе, шчодры на чулых сяброў і разумных кіраўнікоў. Апошняе мела асаблівае значэнне, бо працаваць, як кажуць, у рамках, казённа яна не ўмела. Усё больш эксперыментавала, вынаходзіла. На ўроках танцавала, спявала, не ставіла адзнакі. А аднойчы ўвесь дзень правяла з класам у лесе. Было гэта ў той час немалой дзёрзкасцю. «Наша Маша Замышляева цалкам апраўдвае сваё ўласнае прозвішча», — напісалі ў раённай газеце калегі.

Аднойчы ў школу завітаў міністэрскі работнік. Прыехаў з Масквы. Дырэктар паклікаў яе ў кабінет і строга папярэдзіў: «Маша, толькі без фокусаў». А яна ўсё роўна правяла ўрок па-свойму, так, як лічыла патрэбным. На здзіўленне ўсім, ён спадабаўся госцю, які нават запрасіў яе на ўсесаюзны конкурс. Прыехала. І нечакана атрымала першую прэмію. Гэта была маральная падтрымка. Цяпер больш смела пайшла наперад.

Калі збіралася замуж, свайму суджанаму так і сказала: «Выйду, калі абяцаеш не перашкаджаць у рабоце!» Той, ведаючы ўжо характар Марыі і пераканаўшыся, што і для сям'і яна будзе старацца не менш, чым для работы, толькі пажартаваў: «Бачыў бы раз у тыдзень і то б згадзіўся».

Усім падабаліся яе ўрокі. А яна плакала: не атрымліваецца адно, не выходзіць іншае.

— Ды ў цябе ж самыя лепшыя вучні — усе моцныя, — здзіўляліся педагогі. — Што ты сама сабе праблемы шукаеш?!

У яе і сапраўды ніколі не было адстаючых. Кожны займаўся паспяхова. Дзякуючы стараннасці і ўсё тым жа знаходкам. Але бачыла: не ўсё выкарыстала.

У школу прыйшлі шасцігадовыя першакласнікі замест ранейшых — сямігадовых. Маладыя педагогі адразу ўзяліся іх вучыць. А яна хвалявалася, нават дырэктару школы аднойчы сказала: «Мне яны не па сілах». Але ж адступіць не змагла. І зноў стол, лямпа і праца за поўнач. Чым захапіць? Яны, такая малеча, чакаюць ад цябе незвычайнага, цуду.

## ІДЭЯ — ЗДЗІВІЦЬ

...Адчыніў дзверы — трапіў у казку. Спачатку перада мной скочыў злосны воўк. За ім я ўбачыў спалоханых казлянят, што збіліся ў гурток. А там, далей, у намаляваным лесе, прытулілася такая ж намаляваная хатка. Ператварыўшы клас у лялечны тэатр, дзеці ставілі ў ім папулярную казку.

Марыя Федзяцова выступала ў ролі рэжысёра.

— Вось так мы адпачываем. Бачыце таго козліка? Гэта першакласніца Алеся Асанава. Нядаўна атрымала прыз за лепшую акцёрскую работу.

Сказала і зноў перанеслася ў свет гульні сваіх вуч[illegible]

— Прабачце,— Ма[illegible]. Леанідаўна, нарэшце, адарвалася ад імправізаванай сцэны. — Вы спыталі пра незвычайную кніжку-азбуку? Ды ўсё ж вельмі проста. Да гэтай «самадзейнасці» падштурхнулі ўрокі чытання для самых мал[illegible]х. Вось уявіце: праходзіць а[illegible], другі, трэці... А ў Дзімы, Міколкі ці Васілька на кожным з іх слёзы ручаінкамі па шчоках — не атрымліваецца чытанне. Вы не ўяўляеце, як іх шкада, як невыносна цяжка бачыць гэтыя пакуты. А тут яшчэ адна небяспека: у такіх выпадках звычайная азбука ўжо адштурхоўвае дзяцей. Тады і прыйшла ідэя — здзівіць. Малечы, як нікому іншаму, патрэбна здзіўленне.

Азбука Федзяцовай — пятнаццаць кніг-веліканаў, росту ледзь ці не аднолькавага з яе вучнямі. Стваралася яна не за дзень і не за тыдзень... Многія вечары, часам ночы, сядзела Марыя Леанідаўна над лістамі паперы — малявала, наклейвала, выводзіла. Літары-зорачкі, літары-птушачкі злучала ў склады, а склады — у сказы-ручайкі.

І вось урок. У клас уваходзіць дзяўчынка Мальвіна. У руках — азбука-велікан. Дзеці з захапленнем гартаюць яе старонкі. Што гэта? Ды гэта ж казачны домік. Але пакуль ні ў адным акенцы яго не гарыць святло, няма жыхароў.

— Светачка, Васілёк, Паўлік, хуценька закрыем вочкі. А цяпер адкрыем.

У адным з акенцаў загарэўся агеньчык — прыйшла літара-навасёл. Хіба ж можна забыць такога навасёла?

А правільная артыкуляцыя. Для малышоў — цэлая праблема. І вось ідэя.

— Жыў на свеце Язычок. Быў у яго свой домік. Домік называўся роцікам. Домік адкрываўся і закрываўся. Разгледзьце, чым закрываўся домік.

— Зубкамі.

— Правільна. Ніжнія зубкі — ганак. Верхнія — дзверцы. Сядзеў Язычок у сваім доміку. Яму вельмі захацелася навучыцца спяваць песеньку матора самалёта. Ён усміхнуўся, шырока адкрыў домік, уключыў голас, хутка падкінуў хвосцік да верхніх дзверцаў, пусціў халодны вецярок. Язычок заспяваў «р-р-р» і адчуў, што ў яго задрыжэў хвосцік. Ён узрадаваўся і сказаў: «Вось я і навучыўся спяваць песеньку матора самалёта. Гэта ж самая цяжкая песенька!»

Знаходкі — сапраўдная стыхія Марыі Федзяцовай.

— Вось так увесь час бясконцыя ідэі. Нараджаюцца быццам з кошыка фокусніка, — не то скардзіўся, не то радаваўся дырэктар школы. — Прыдумае, адшліфуе, а там, глядзі, з новай ідзе. Паспявай толькі пераварваць. Яна ў нас заслужаная настаўніца, але не супакойваецца на дасягнутым. Урок па пазакласнаму чытанню рыхтуе тыдзень. Прадумае кожную дэталь. А потым прыйдзе і пабудуе яго зусім па-іншаму. Віртуознасць? Так. Па сілах толькі майстру.

## НАКАЗ НА ДАРОГУ

Як, напрыклад, растлумачыць дзецям, што такое Радзіма-маці? Думала-думала і прыдумала такі вобраз: жанчына з пабеленымі сівізной валасамі (загінулі на вайне сыны), у белаблакітным адзенні. У блакітных вачах адлюстраванне блакітнага, мірнага неба. А чаму яна босая? Бо хоча адчуць цяпло роднай зямлі. Побач — хлебнае поле. Яно наш карміцель: лустачкі хлеба ляжаць на стале. Вось якая добрая і прыгожая наша Радзіма-маці!

Неяк забег Саша Пруднікаў (вучыцца ў мінскім тэхнікуме).

— Марыя Леанідаўна, памятаеце, мы праводзілі свята хлеба? Я таксама праводжу яго ў тэхнікуме.

А Віталь Мартыненка калісьці напісаў у сваім школьным сачыненні: «Дзякуй, Марыя Леанідаўна, што навучылі любіць матэматыку». Цяпер ён, Ленінскі стыпендыят Баўманскага вышэйшага тэхнічнага вучылішча, паўтарае гэтыя словы пры кожнай сустрэчы з настаўніцай.

Вучні, бывае, завуць яе мамай. Найвялікшае прызнанне ўжо не прафесіянальных — чалавечых якасцей.

У яе быў юбілей — споўнілася 50 гадоў. І нечаканы званок у дзверы.

— Дарагая мама, віншуем сардэчна, — на парозе з кветкамі яе былыя выпускнікі. Прыехалі з розных куткоў краіны — Масквы, Адэсы і нават Сахаліна.

...Сёння ўрокаў няма. Можна наведаць цырульню — настаўніцы нельга быць непрыгожай. Яна — найпершы прыклад для выхаванцаў. Але знаходзяць і ў цырульні: «Госці з Брэстчыны. Чакаюць».

— Хутчэй, даражэнькая, — просіць майстра. — Людзі ж здалёк прыехалі. Трэба бегчы.

І бяжыць, і зноў (невядома каторы ўжо раз за тыдзень) праводзіць паказальны ўрок. І зноў цярпліва адказвае на пытанні, развейвае сумненні, пераконвае.

Здаецца, пераканала. Госці паехалі. Але заходзіць дырэктар:

— Ма[illegible]ія Леанідаўна, зноў званілі. Просяць прачытаць некалькі лекцый слухачам абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў.

Едзе ў Віцебск, потым у Мінск... Выступае, дзеліцца, дапамага[illegible]нсультуе. Вяртаецца, а ўсле[illegible]атак пісьмаў. Нехта не паспеў пагаварыць, нехта пасаромеўся. А цяпер вось выклалі на паперы. Як быць, як жыць? А, бывае, атрымлівае і вось такія: «Мы пазнаёміліся на курсах. А нядаўна я была ў вёсцы. Наварыла брусніц, высылаю. А што, калі і для вашага здароўя будзе карысным».

У Марыі Леанідаўны ёсць урок, які не ўключаны ў расклад. Але ён традыцыйны. Праводзіцца для выпускнікоў і іх бацькоў. Гэта ўрок жыцця, урок сумлення і шчырасці. Як бы наказ на дарогу: быць заўсёды разумнымі, добрымі, чалавечнымі. І ўрок гэты незабыўны. Пры сустрэчах яго абавязкова ўспамінае кожны — і той, хто скончыў школу нядаўна, і той, хто развітаўся з ёю ўжо шмат гадоў назад. Настаўніца Федзяцова, як і ўсе папярэднія ўрокі, стварыла яго сама.

С. СЛАВІН.

ЧАЛАВЕК НА ЗЯМЛІ СВАЁЙ



Людзям, не надта дасведчаным у навуцы, асэнсаваць навуковае тлумачэнне новага адкрыцця, зробленага прафесарам Уладзімірам Барышэўскім, дырэктарам Інстытута ядзерных праблем пры Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна, не проста. А таму варта спаслацца на некалькі афіцыйных заключэнняў. «Работа ўносіць карэннае змяненне ва ўяўленні аб узаемадзеянні святла з рэчывам»,— так ацанілі яе ў Інстытуце ядзернай фізікі Сібірскага аддзялення АН СССР. А Інстытут тэарэтычнай і эксперыментальнай фізікі заключыў: «Знойдзены аўтарамі эфект істотна змяніў існуючыя ўяўленні аб узаемадзеянні гама-квантаў з рэчывам і, безумоўна, можа знайсці важнае прымяненне пры даследаванні плазмы ў тэрмаядзерных канструкцыях у гама-астраноміі».

Ленінградскія эксперыментатары правялі вельмі тонкі фізічны эксперымент, які поўнасцю пацвердзіў тэорыю. Так, дзякуючы ювелірнаму майстэрству эксперыментатараў і празорлівасці фізікаў-тэарэтыкаў, у Дзяржаўным рэестры СССР з'явілася адкрыццё за нумарам 360, а прафесар Барышэўскі, гаворачы спартыўнай мовай, «зрабіў дубль»!

Дарэчы ўспомніць, што з 1957 года па сённяшні дзень у Дзяржаўным рэестры СССР зарэгістравана ўсяго 360 адкрыццяў і пад нумарамі 224, 360 значыцца імя беларускага фізіка, доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара У. Барышэўскага. Як і ў спорце, у навуцы такі «дубль» — вялікі поспех. У Савецкім Саюзе ім валодаюць усяго некалькі вучоных самага высокага рангу.

У Белдзяржуніверсітэце склалася арыгінальная школа ў галіне ядзернай оптыкі і ўзаемадзеяння элементарных часціц з рэчывам. Фундаментальныя даследаванні яе прадстаўнікоў у галіне ядзернай оптыкі прывялі да стварэння Навукова-даследчага інстытута ядзерных праблем, які і ўзначаліў прафесар Уладзімір Барышэўскі.

Супрацоўнікі інстытута з задавальненнем адзначаюць адсутнасць сімптома ўлады ў прафесара. Тут пануе атмасфера «роўных сярод роўных», аўтарытэт, прапарцыянальны эрудыцыі, працавітасці і навуковых заслуг. А работы, праблем у маладога інстытута і яго дырэктара многа.

Э. ПАДОЛЬНЫ, кандыдат тэхнічных навук.

**НА ЗДЫМКУ:** дырэктар Інстытута ядзерных праблем пры Белдзяржуніверсітэце У. БАРЫШЭЎСКІ.

Фота Л. КЛІМАНСКАГА.

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# СПЕВАКІ З НАШАЙ ВУЛІЦЫ

...Сумна і ціха стала на нашай вуліцы, нібы не хапае на ёй чагосьці. Але вось ля суседняга дома спыніўся ярка-чырвоны «Ікарус», і адтуль выйшлі мае суседзі: сям'я Дударчыкаў вярнулася з гастролей. Гастролі — гэта, бадай, і загучна сказана. Тым не менш народны хор народнай песні «Світанак» Вілейскага гарадскога Дома культуры выступаў ужо са сваёй канцэртнай праграмай не толькі ў сваім і суседніх раёнах: пабываў ён на братняй Украіне, у Крыме і Расіі, зараз збіраецца ў ГДР. Дударчыкі — яго найбольш актыўныя ўдзельнікі. Зінаіда Пятроўна, рахункавод, і яе муж Мікалай Міхайлавіч — артысты са стажам. У «Світанку» амаль з першага дня яго заснавання. Памятаюць і не самыя лепшыя часы хору, калі папулярнасць трэба было яшчэ заваёўваць. Мяняліся ў калектыве людзі, адны прыходзілі, іншыя пакідалі яго, і, па праўдзе кажучы, толькі дзякуючы намаганням яго кіраўніка Анатоля Шагава і такіх вось энтузіястаў, як Дударчыкі, хор стаў такім, які ёсць сёння. Нядаўна пачаў удзельнічаць у хоры сын Дударчыкаў Андрэй — навучэнец прафесійна - тэхнічнага вучылішча.

Сапраўды, на вуліцы робіцца сумна, калі Дударчыкі некуды ад'язджаюць. Бо народныя песні яны спяваюць не толькі са сцэны. Песня, нібы жывая істота, жыве ў іх доме пастаянна. Праз плот, што аддзяляе нашы падвор'і, часта чую, як ад суседзяў ляціць то вясёлая, гарэзная, то — у залежнасці ад настрою і стану душы — задумліва-журботная песня. Бацька і сын спяваюць, нешта майструючы на сваёй сялібе, капаючы ўвесну агарод, ладзячы косы ў сенакосную пару. Спяваюць не на публіку, а для сябе, упаўголаса, і так цікава і прыемна іх у гэты час слухаць. Калі адпачываюць, Андрэйка акампаніруе бацьку на баяне — нядаўна скончыў музычную школу.

Дарэчы, бацьку і сына амаль увесь вольны ад работы час можна бачыць разам. Разам будуюць, разам нават бялізну мыюць пад наглядам гаспадыні. Што Мікалай Міхайлавіч на ўсе рукі майстар — дзіва невялікае. Ён з пакалення дзяцей вайны. У гады Вялікай Айчыннай пахаваў бацьку — вось і навучыўся і слясарыць, і чаравікі шыць, і адзенне, і цяслярыць.

Больш дзіўна, што сучаснае дзіця, Андрэй у няпоўныя чатырнаццаць гадоў умее ўсё, што не толькі яго равеснікі, але і старэйшыя хлопцы часта зрабіць не змогуць. Таму бацькі сынам вельмі задаволены:

— Вядома, мы не змаглі б наведваць кожную рэпетыцыю хору, калі б Андрэй не навучыўся ўжо з дзесяці гадоў упраўляцца з гаспадаркай.

Добрыя, шчырыя людзі — Дударчыкі, і для нас, суседзяў, свята, калі льюцца па наваколлі іх прыгожыя душэўныя песні.

Наталля ВАЛЫНЕЦ.

## ГАСЦІЛІ Ў МІНСКІХ ШКОЛЬНІКАЎ

# СЮРПРЫЗ

У МІНУЛЫМ месяцы Мінск наведала вялікая група школьнікаў з Даніі, якая прыязджала да нас па лініі Бюро міжнароднага турызму «Спутник». Савецкі Саюз— не першая краіна, дзе за апошнія гады пабывалі дацкія юнакі і дзяўчаты. Ахвотна расказваюць, параўноўваюць, як жывуць людзі ў Злучаных Штатах, у Грэцыі, у Федэратыўнай рэспубліцы Германіі. Усюды, куды прыязджаюць, маладыя датчане знаёмяцца не столькі са славутасцямі краіны, колькі з яе жыхарамі. Менавіта таму, накіроўваючыся ў чарговае падарожжа, яны спыняюцца ў адным-двух гарадах або нават у невялікім мястэчку, як гэта было ў Грэцыі, затое сустракаюцца з мноствам людзей, задаюць ім мноства і самых розных пытанняў.

са здзіўленнем і радасцю высветлілі, што без праблем разумеюць адзін аднаго. Мовай, якая з'яднала іх, аказалася англійская.

— Сапраўды ў нас не было цяжкасцей у гэтым сэнсе, — засведчылі госці.

З юнаком і трыма дзяўчынкамі з Даніі я сустрэлася ў сваіх знаёмых, дачка якіх вучыцца ў 64-й мінскай школе. Сям'я іх не адзіная, дзе прымалі дацкіх дзяцей. У той вечар датчане былі гасцямі ў многіх дамах. І можа такое непасрэднае, нязмушанае знаёмства з нашым бытам, звычаямі, з нацыянальнай кухняй прынесла гасцям у іх імкненні бліжэй пазнаёміцца з жыццём беларусаў найбольшую карысць. Я не выпадкова ўжыла слова «нязмушанае». Менавіта такая атмасфера панавала ў доме, куды прыйшлі Мортан Орстэд, Малінэ Грэўс, Кідэ Раамнокс і Шарлота Йенсан. Свабодныя, раскаваныя позы гасцей. Яны магчымыя толькі ў сяброўскай атмасферы, дзе пануе шчырасць і ўзаемаразуменне. Зацікаўленая гаворка.

Вось і ў нашым горадзе гасцей цікавілі мінчане — іх аднагодкі і старэйшыя, савецкі лад жыцця і змены, якія адбываюцца ў грамадстве. Параўноўвалі, як у нас і ў Даніі вырашаецца жыллёвая праблема, якая плата за кватэру, каго выбіраюць у Саветы, якія па характару савецкія людзі. Мінчане спадабаліся ім сваёй мяккасцю, добразычлівасцю, прастатой.

У гасцей было ўсяго некалькі арганізаваных экскурсій. Адна з іх у Хатынь, да месца, якое шырока вядома ва ўсім свеце і якое немагчыма абмінуць, прыехаўшы ў Беларусь. Амаль увесь астатні час дацкія дзеці праводзілі з беларускімі. Невялікімі групамі разыходзіліся і раз'язджаліся яны па Мінску.

— Зойдзем у які-небудзь інстытут, — выказвалі госці пажаданне. І вось яны ўжо ў адной з самых буйных вышэйшых навучальных устаноў беларускай сталіцы — політэхнічным інстытуце. Звяртаюцца на перапынку паміж лекцыямі да студэнтаў:

— Чаму вырашылі закончыць менавіта гэты інстытут? Ці быў у вас выбар?

— Вядома, самым галоўным пры выбары будучай прафесіі былі асабістыя схільнасць і жаданне.

Госці спынілі ў калідоры пажылога прафесара (на жаль, не здагадаліся спытаць прозвішча), і ён цярпліва тлумачыў цікаўным датчанам усё, што тычылася навучальнага працэсу.

У мінскім метро яны падышлі да групкі моладзі — дзвюх дзяўчат і хлопца. Спыталі, дзе яны вучацца, ці дорага каштуе спорт. Ім адказалі, што спортам у нас займаюцца вельмі многія. Карыстанне басейнам, тэнІснымі кортамі, іншымі спартыўнымі пляцоўкамі каштуе зусім нямнога, а для студэнтаў у студэнцкіх гарадках наогул бясплатнае.

Госці вельмі многа фатаграфавалі, нават у вагоне метро. Рабілі здымкі на вуліцах, у кафэ. На памяць фатаграфавалі новых сяброў.

Новыя сябры, мінскія школьнікі, — бадай, самае каштоўнае, што набылі датчане на беларускай зямлі, і надта ж не хацелася з імі расставацца. На дыскатэцы ў кафэ «Сузор'е»

Дацкім школьнікам па 17, яны трошкі старэйшыя за нашых дзевяцікласніц, да якіх прыйшлі з візітам. Агульнаадукацыйную школу ўжо скончылі. Цяпер — два гады спецыялізацыі, каб мець магчымасць паступіць на работу. Нашы дзяўчынкі расказваюць пра свае школьныя справы, пра тое, што чытаюць, якую музыку слухаюць. Кідэ паказваюць энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час» і пытаюцца, ці ведае яна аб тым, што ёсць меркаванне вучоных, нібыта каля 1508 года беларускі першадрукар часова служыў сакратаром у дацкага караля. Кідэ гэтага раней не ведала, але сам факт прывёў дзяўчыну ў захапленне.

— Калі я дома раскажу сяброўкам пра Скарыну, для іх гэта будзе сюрпрызам. Прыемным сюрпрызам, — узрадавана паўтарыла Кідэ.

Мы сказалі дзяўчынцы, што ў Каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене зберагаецца найбольш поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» Ф. Скарыны з «Пасхаліяй». Прычым «Пасхалія» як састаўная частка «Саборніка» захавалася толькі ў капенгагенскім экземпляры.

Ці паспрабуе Кідэ бліжэй пазнаёміцца з постаццю славутага палачаніна? Не буду сцвярджаць. Але ўпэўнена, што будзе расказваць пра яго, вярнуўшыся дадому. Тая тонкая ніточка, якую яшчэ ў XVI стагоддзі паміж Беларуссю і Даніяй працягнуў Францыск Скарына, стане больш трывалай, будзе спрыяць умацаванню сувязей паміж дзвюма краінамі. І не апошнюю ролю ў гэтым адыграюць дзеці, якія прыязджалі ў Беларусь, каб пазнаёміцца з яе народам, пераканацца, што ён прагне міру і спакою, дружбы і ўзаемаразумення з іншымі народамі.

Дзіяна ЧАРКАСАВА.



Сакрэтамі робататэхнікі авалодваюць учарашнія школьнікі ў сярэднім прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 115 Мінска. Атрымаўшы дыплом, яны прыйдуць працаваць у цэхі Мінскага трактарнага завода. Маладая рабочая змена стане за пульты робататэхналагічных комплексаў, маніпулятараў, станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем.

НА ЗДЫМКУ: заняткі ў лабараторыі вылічальнай тэхнікі.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

## НЕМЦЫ АДЧУВАЮЦЬ ВІНУ ПЕРАД ІНШЫМІ НАРОДАМІ

# АДКРЫЦЬ ВОЧЫ НА ГІСТОРЫЮ

Трывога за лёс планеты, за будучыню чалавецтва прымусіла ў апошнія гады мільёны людзей у розных краінах актыўна ўключыцца ў барацьбу за мір. Дзеянні міралюбівых сіл прымаюць самыя разнастайныя формы. Адна з іх — народная дыпламатыя. Нядаўна па запрашэнню Рэспубліканскага камітэта абароны міру ў Беларусі пабывалі прадстаўнікі гэтага руху з Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, члены «Хрысціянскай службы міру» Вернер Лехтэнфельд і Фрэд Дорн.

Накіроўваючыся на арганізаваную па іх просьбе сустрэчу з журналістамі, міжволі падумаў, што зместу і ідэі народнай дыпламатыі не зусім адпавядае прыезд усяго двух чалавек. Але аказалася, што гэты візіт будзе мець маштабныя вынікі ў адносінах да прыхільнікаў міру нашых краін.

— Мэтай нашага прыезду ў Беларусь з'яўляецца канчатковае вырашэнне многіх пытанняў, звязаных з арганізацыяй другога Палітычнага паломніцтва членаў «Хрысціянскай службы міру» ФРГ у вашу рэспубліку, — растлумачыў Фрэд Дорн. — Наша супрацоўніцтва з Савецкім камітэтам абароны міру пачалося чатыры гады назад і працягвае паспяхова развівацца. Я ўжо другі раз у Мінску, а мінулы раз быў тут у час першага палітычнага паломніцтва ў маі 1988 года. Яно зрабіла незабыўнае ўражанне на ўсіх сто пяцьдзесят чалавек, якія прыбылі сюды з ФРГ. Вядома, усе мы чулі пра ахвяры вашага народа ў гады вайны. Але тое, што даведаліся і ўбачылі тут, зрабіла на нас незабыўнае ўражанне. Мы былі ўзрушаны зверствамі фашыстаў. Я асабіста зразумеў, чаму тое, што тут адбывалася, замоўчвалася і замоўчваецца ў нас. Сорамна гаварыць аб такіх жорсткіх здзеках, учыненых тваім народам, над безвіннымі людзьмі. Але гаварыць гэта трэба. «Людзі добрыя, помніце!» Гэта словы з завяшчання загінуўшых у Хатыні жывым. Для нас яно стала святым, і кожны лічыць сваім абавязкам зрабіць усё, што ад яго залежыць, каб такога больш ніколі не паўтарылася.

Наша паездка праходзіла пад дэвізам «Паварот да будучыні», але сапраўды яна аказалася паездкай у мінулае. Так, немцы ведаюць аб вайне праўду, але не ўсю. У ФРГ цяпер вельмі складаная палітычная сітуацыя. Моцныя правыя сілы, вядзецца барацьба супраць прагрэсіўна настроеных людзей. Тут мы зразумелі, чаму так актыўна стараліся перашкодзіць ажыццяўленню нашага паломніцтва у Беларусь. Неафашыстам нявыгадна, каб нямецкаму народу адкрылі вочы на гісторыю.

Хачу сказаць яшчэ аб адным факце, што ўразіў мяне, — працягваў Фрэд Дорн.— Вельмі многія немцы адчуваюць віну перад іншымі народамі за мінулую вайну. Гэта пачуццё яшчэ больш узмацнілася пасля прыезду сюды. Мы чакалі і лічылі справядлівым, што да нас, грамадзян ФРГ, тут паставяцца не надта дружалюбна. І памыліліся. Нашы савецкія калегі зрабілі ўсё, каб мы маглі як мага больш убачыць, гаварыць з людзьмі. За час, праведзены ў Беларусі, мы пераканаліся, што савецкія людзі помняць вайну, ненавідзяць фашызм у любых яго праявах, але не адчуваюць варожасці да нямецкага народа. На ўсё жыццё запомнілася нам богаслужэнне ў мінскім саборы летась 8-га мая. Нашы ўдзельнікі таксама мелі магчымасць выступіць на ім. Мы прасілі ў савецкіх людзей прабачэння за учыненае ў вайну і былі глыбока крануты іх рэакцыяй на наш зварот. У вачах у многіх, у тым ліку і ў мітрапаліта, сталі слёзы. А калі мы ішлі да выхаду, нам паціскалі рукі і як братам гаварылі: «Хрыстос уваскрэс!» Тады мы канчаткова зразумелі, што свой шлях у будучыню зможам знайсці толькі сумесна з людзьмі, якія жывуць тут.

— Народная дыпламатыя — гэта вялікая сіла, — падтрымаў размову Вернер Лехтэнфельд. — Яна не можа і не павінна чакаць указанняў зверху. Уся ініцыятыва ідзе знізу, з народа. А з яго воляй абавязаны лічыцца ўрады. Тое, пра што расказаў мой калега, мела свой працяг. Каб памагчы нашым народам ліквідаваць узаемныя забабоны, восенню мінулага года быў арганізаваны прыезд да нас савецкіх прыхільнікаў міру. Яны наведалі дваццаць пяць гарадоў і мястэчак ФРГ. Многія немцы ўпершыню змаглі ўбачыць жывых камуністаў з Савецкага Саюза і зразумець, што яны такія ж людзі, як усе. У нас ёсць рознагалоссі, але памкненні нашы адзіныя. Усе мы хочам мірнай і шчаслівай будучыні для сваіх дзяцей. Дабіцца гэтага можна толькі разам. Таму дэвіз нашага руху: «Мы будуем наш агульны дом — Еўропу».

Супрацоўніцтва між намі развіваецца. У красавіку ў ФРГ зноў прыедуць пяцьдзесят чалавек з СССР. Яны пабываюць у многіх мясцінах, будуць жыць у нямецкіх сем'ях.

І вось мы заканчваем арганізацыю другога Палітычнага паломніцтва ў Беларусь. Яшчэ семдзесят членаў «Хрысціянскай службы міру» змогуць адкрыць вочы на гісторыю, каб больш актыўна працаваць для будучыні. Іх прыезд будзе прымеркаваны да горкай, але памятнай даты — пяцідзесяцігоддзя з дня пачатку другой сусветнай вайны, пра якую мы ніколі не павінны забываць. На гэты раз паломніцтва будзе праводзіцца ва ўсіх абласных цэнтрах Беларусі. Мы будзем удзельнічаць у мітынгах, царкоўных службах, уроках міру ў школах, наведваць савецкія сем'і. Лічым, што сумесная работа па ўмацаванню міру і ўзаемаразумення яшчэ толькі пачынаецца, і бачым многія шляхі яе пашырэння. Наша арганізацыя, напрыклад, у рамках акцыі «Збавенне» пачала збор сродкаў на набыццё абсталявання для шпіталя ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны ў Віцебскай вобласці. З савецкімі калегамі мы плануем акцыі па ахове навакольнага асяроддзя, думаем аб арганізацыі сямейнага адпачынку савецкіх грамадзян у ФРГ і наадварот. Але галоўную задачу бачым у тым, каб жывым прыкладам паказаць нямецкім і савецкім народам, што ўрокі гісторыі не прапалі дарэмна. Мы помнім вайну і больш ніколі нічога не дазволім разбураць, будзем закладваць фундамент і разам будаваць наш агульны дом.

Рыгор ФАМЕНКА.



На берегах великой славянской реки Днепр стоит древний Смоленск. Его многовековая история — одна из ярчайших и драматичнейших на русской земле. За долгие годы существования города он познал и тяжелые периоды становления, и гордость за свои достижения, и боль, горечь жестоких битв с врагом, и радость побед. Но несмотря на все перипетии судьбы, город сохранил достойные следы былого.

Когда сегодня идешь по улицам его центральной части, в первую очередь обращаешь внимание на величественные стены смоленского Кремля (1595—1602 годы), сложенные из красного кирпича. И хоть со времени их возведения прошли столетия, на туристическом плане города хорошо видно, как они опоясывают старую часть Смоленска, словно по-прежнему несут свою сторожевую, защитную службу.

Гордость смолян, настоящий шедевр искусства — Успенский собор XVII—XVIII веков. Его богатейшее внутреннее убранство, неповторимые реликвии вызывают настоящее восхищение у советских и зарубежных туристов. Одна из икон собора — святой Идигитрии — еще и огромная историческая память. Она была с русским войском на Бородинском поле во время сражения с армией Наполеона. Кстати, Смоленск сыграл огромную роль в Отечественной войне 1812 года. В истории навсегда останется Смоленская битва, где наполеоновская армия потеряла более 20 тысяч человек. Поэтому неудивительно, что в городе много памятников, напоминающих и увековечивающих события и героев тех лет. К сожалению, можно говорить не о единственной Смоленской битве. Кроме 1812-го, была она и в 1941-м году. Город был захвачен врагами. Но и тогда это стоило им очень дорого. В результате же, и в одной войне, и в другой Смоленск выстоял и победил. Сильна русская земля, сильны ее города, сильны ее люди.

НА СНИМКАХ: Смоленск сегодня. Успенский собор; памятник «Героям 1812»; памятник М. Кутузову; смоленский Кремль.

Фото С. КРИЦКОГО.







# МУЗЕЙ ХЛЕБА

«Хорошо испеченный хлеб составляет одно из величайших изобретений человеческого ума». Это высказывание Тимирязева вспоминаешь, когда знакомишься с экспозицией необычного музея в селе Рясно Белорусской ССР. Он называется «Музей хлеба».

— История хлеба связана со многими народными обычаями,— рассказывает посетителям музея экскурсовод. Например, в Пакистане перед свадьбой невесте предлагают приготовить тесто для выпечки 25-килограммового каравая. Издревле у славян существовал обычай: люди, переломившие хлеб, становятся друзьями на всю жизнь. Хлеб и сегодня остается послом мира и дружбы между народами.

Особое внимание посетителей привлекает исторический раздел экспозиции. Здесь можно увидеть пшеничные зерна, найденные при раскопках неподалеку от села Рясно. Они пролежали в земле девять веков. А вот на снимке зерна куда более древнего происхождения. Они были обнаружены в кладке пирамиды, сооруженной примерно 5 300 лет назад. К Древнему Египту ученые относят и истоки современного хлебопечения.

В музее можно увидеть разные виды хлеба, которые выпекаются в наших республиках. Причем к каждому образцу приложены рецепты его приготовления. Есть здесь узбекская лепешка, армянский лаваш, азербайджанский чурек, грузинский пури, русский калач...

Отдельный раздел посвящен белорусскому хлебу. В этой республике многие его сорта выпекают из ржаной муки. Ржаной, черный хлеб пекут с добавлением горчичного масла, тмина, меда, патоки, кориандра. При этом используют в хлебопечении старинные рецепты. Ржаной хлеб популярен не только в нашей стране. На одном из стендов — рекламная пластиковая упаковка хлеба, выпускаемого в Финляндии. На ней написано на финском и шведском языках: «Чисто русский, изготовленный по советской лицензии, настоящий, дающий силу черный ржаной хлеб. Пожалуйста, отведайте».

Начало музею положила частная коллекция. Ее долгое время собирал учитель местной школы В. Кармазин. Ему помогали коллеги и школьники — дети хлеборобов. Когда коллекции стало тесно в школе, местный сельский кооператив выделил для нее просторное помещение в новом большом здании. Здесь нет билетеров, как нет и билетов. В штате музея один человек — его директор В. Кармазин, он же экскурсовод.

В тот день, когда я был в музее, с его экспонатами знакомилась группа молодых туристов из Прибалтики. Мы и присоединились к ней.

В одном из залов экскурсовод обратил внимание посетителей на хлеб, который берут с собой космонавты,— кусочек хлеба «на один укус» в целлофановом пакетике. Здесь же приведены слова космонавтов Леонида Попова и Владимира Рюмина, адресованные хлеборобам: «Какой вкусный хлеб на орбите! Какими запахами одаряет родная Земля! Спасибо вам за хлеб! Мы знаем: он начинается с первой борозды, с первого зерна, принятого землей от вас».

Когда экскурсия закончилась, студентка Вильнюсского университета Неёле Соколовенайте сказала:

— Мы часто бываем в разных музеях. Но вот в музее хлеба я побывала впервые. Наверное, другого такого нет. Я считаю, что такой музей очень нужен. Хлеб у нас каждый день на столе. И мы при повседневной его незаменимости и дешевизне как-то перестали его замечать. Музей напоминает нам, что надо беречь хлеб, уважительно относиться к нему. Всегда помнить, как нелегко он достается хлеборобам.

**Александр РЕЗНИКОВ.**

# КОЛХОЗ АРЕНДУЕТ ЗАЛИВ

В восточной части Сахалина, на берегу залива Терпения, находится рыболовецкий колхоз «Дружба». Сегодня в нем трудятся почти полторы тысячи человек. Весной прошлого года колхозники купили у объединения «Сахалинрыбпром» рыбозавод, получив тем самым возможность самостоятельно производить рыбопродукты. Затем колхозное руководство решило пойти дальше — арендовать у государства залив Терпения.

Чем это вызвано? Ведь и раньше в «Дружбе» выполняли производственные планы без всякой аренды. Дело в том, что с покупкой рыбозавода потребовалось дополнительное сырье. Наиболее удобно было бы промышлять рыбу рядом в заливе, на берегу которого и расположилось колхозное хозяйство, единственное в этом районе. А чтобы обеспечить здесь наиболее рациональный промысел, у колхозников родилась идея — взять залив в аренду, чтобы был у него один хозяин, заинтересованный в его судьбе. И к тому были основания.

Богатейший залив, где раньше добывали по 10—12 тысяч тонн лососевых в год, а также рыбу других пород, сейчас скудеет. Исчезают промысловые виды — например, желтоперая камбала. Причин здесь несколько, но среди главных — нерациональный лов рыбы и сбросы промышленных предприятий.

Руководство колхоза при помощи ученых собирется уточнить ограничения на лов рыбы и строго их придерживаться. Уже сегодня специалисты подсчитали, например, что вылов нелимитированных пород рыб, скажем, наваги, можно будет увеличить в 4—5 раз.

Параллельно с этим в колхозе хотят решить вопрос воспроизводства рыбы, так как существующие на данный момент рыборазводные заводы на реке Поронай дают небольшой возврат молоди — от двух до четрых сотых процента. Специалисты колхоза уже подсчитали, что при помощи районного коопзверопромхоза можно будет в несколько раз увеличить возврат молоди, что позволит уже к 1992 году восстановить в заливе запасы камбалы и разрешить ее вылов.

Для решения экологических проблем хозяйство намерено разработать систему штрафов, которые позволили бы эффективно бороться с предприятиями, загрязняющими залив, а также привлечь к совместной работе по охране акватории всех заинтересованных лиц.

— «Дружба» может рассчитывать на нашу помощь,— говорит заместитель председателя Поронайского горисполкома Н. Шабалин.— Экологическая ситуация в заливе Терпения достаточно серьезна, и сдача залива в аренду может принести только пользу. А средства у колхоза достаточные: здесь прозводится продукции на 6,5 миллиона рублей ежегодно.

**Юрий КОТЛЕР.**

## «ЮНАЦТВА» — ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ПРАДСТАЎЛЕНА ЎСЁ ЛЕПШАЕ

Выдавецтва «Юнацтва» надае вялікую ўвагу выпуску дзіцячай літаратуры на роднай мове. Так, калі ўсе выдавецтвы Беларускай ССР выпусцілі ў 1987 годзе каля чатырохсот кніг на беларускай мове агульным тыражом 4,6 мільёна экземпляраў, то 90 з іх тыражом звыш трох мільёнаў экземпляраў выйшлі ў «Юнацтве». Прычым за сем гадоў свайго існавання выдавецтва павялічыла выпуск беларускамоўных кніг амаль удвая. Масавымі тыражамі выходзяць творы фальклору, класікаў беларускай літаратуры, вядомых майстроў слова, маладых літаратараў.

Пачэснае месца ў тэматычных планах выдавецтва займаюць і творы замежных пісьменнікаў, а таксама пісьменнікаў саюзных рэспублік у перакладзе на беларускую мову. Выдавецтва першым у краіне распачало выпуск серыі «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР». Літаратуры кожнай з 15 брацкіх рэспублік прысвячаецца асобны том, у якім прадстаўлена ўсё лепшае, што створана для дзяцей. Ужо выйшлі ў свет тамы беларускі, украінскі, узбекскі, літоўскі, латышскі, армянскі, малдаўскі, грузінскі, эстонскі. Рыхтуюцца чарговыя кнігі гэтай серыі. Выпуск пятнаццацітомнай бібліятэкі дзіцячай літаратуры народаў СССР будзе завершаны да 70-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. І, безумоўна, значэнне яе ў справе далучэння юных чытачоў да вялікіх духоўных каштоўнасцей нашых народаў, у справе павышэння функцыянальнасці роднай мовы — вялізнае.

Не меншай увагі заслугоўвае і выдавецкі штогоднік «Ветразь», які штораз пашырае межы сваіх літаратурных падарожжаў па савецкіх рэспубліках, па далёкіх і блізкіх краінах і кантынентах. Гэта таксама дае магчымасць нашым чытачам праз роднае слова далучацца да лепшых здабыткаў айчыннай і сусветнай культуры, выхоўваць павагу да вялікай сям'і савецкіх народаў і народаў свету.

Асаблівая ўвага — беларускай літаратуры для самых маленькіх чытачоў і слухачоў, якія толькі пачынаюць чытаць, слухаць творы на роднай мове. Для іх выдавецтва выпускае штогод 20-25 назваў кніг. Самая шматлікая серыя «Мая першая кніжка», у якой пабачылі свет творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Танка, В. Віткі, іншых вядомых майстроў роднага слова. Пазнаёміць з гісторыяй беларускага народа, яго культурай, прывабіць прыгажосцю матчынай мовы закліканы і кніжкі-маляванкі, кніжкі-цацкі, кніжкі-знайкі. Яны раскажуць і пра першадрукара Ф. Скарыну, і пра сапраўдных чарадзеяў — народных умельцаў, і пра беларускія нацыянальныя касцюмы, і пра народныя музычныя інструменты, і пра народную архітэктуру...

У сувязі з тым, што пашыраецца вывучэнне роднай мовы ў дашкольных установах, выдавецтва распачало выпуск новай серыі для самых маленькіх чытачоў — «Бібліятэчкі дзіцячага сада», якая штогод будзе папаўняцца дзвюматрыма кніжкамі. Тут будзе шырока прадстаўлена вусная творчасць беларускага народа, творы народных пісьменнікаў, усё лепшае, што актыўна садзейнічае фарміраванню гарманічна развітой асобы. Вядома, мы не можам абмежаваць нашых чытачоў толькі роднай літаратурай, таму ў «Бібліятэчку дзіцячага сада» ўключаны і творы класікаў рускай і сусветнай літаратуры, а таксама і літаратуры народаў СССР. У 1987—1988 гадах у гэтай серыі пабачылі свет кнігі «Ліпа і клёнік» Я. Брыля, «Гарошак» — беларуская [illegible]дная казка, «Два таварышы» [illegible]. Талстога, «Рабінка» — зборнічак вершаў А. Пушкіна, М. Лермантава, Ф. Цютчава, А. Фета, А. Майкава. У 1989—1990 гадах выйдуць кніжкі М. Танка, беларускія народныя казкі «Верабей і мы[illegible]», «Два маразы» і творы Я. Пе[illegible]ка, М. Някрасава, М. Прышвін[illegible]

Кнігі для дзяцей на роднай мове закліканы фарміраваць у юных пачуццё нацыянальнай годнасці, цікавасць да гісторыі роднага народа, яго культуры, а таксама да культуры іншых народаў.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Люба ТАРАСЮК**

### УНІВЕРСІТЭТ

Нам не цягнуць на шчасце жарабкі.
Мы самі пішам свайго лёсу драму.
Гісторыя — высокай чэсці брама,
Ў якую стукаюць няўмольна жабракі.

Там, ля святынь, куды ідуць і едуць,
Ля збудаваных продкам камяніц
Прыходзіць час аднойчы ўпасці ніц,
Схаваўшы вочы болю ад суседзяў.

І нехта кіне ў нас пагарды глыж.
Народ не мусіць пачувацца збродам...
Цяпер палічым, колькі нам ад роду, —
Усе, што выраслі гісторыі паміж.

### ПЛІТА НА МЕСЦЫ СТРАТЫ КАЛІНОЎСКАГА

Халоднаю гранітнай даланёй
Зямля
сваю прыкрыла рану.
Там цень пятлі гарыць на ёй,
З магільнай вісельні сарваны...

Супынім горнасць ва ўспаміне тым.
Узвысімся
да нізкага паклону
Ля самага падножжа Той пліты,—
Бо свет не знае нашых пантэонаў.

Ляглі ў зямлю паэты й змагары,
Спяць міліёны з доляй невядомай...
І памяці адбітак невядомы
На нашых сэрцах
горыччу гарыць.

* * *

Так многа слоў, а радасці няма.
Нядаўні сэнс ужо губляе сілу.
Стракатыя адзежыны знасілі
Дзесяткі слоў, — і радасці няма.

Усё цяжэй душу узварушыць.
У ёй не дрэмлюць шчырасці дазорцы.
...Я пакланюся той маўклівай зорцы,
Што здолее душу узварушыць.

**Валерый МА[illegible]ОК**

* * *

Што адбываецца!
Што адбываецца!
Не засынаецца.
Не прачынаецца.
Постаці дрэў
Ветрам скамечаны.
Кожная дробязь
Ачалавечана.
Ліст на падлозе
Ніцма —
Анёлак забіты
Быццам.
Ціха смяецца
Лямпа начная..
Цябе не хапае.
Помніш:
Некалі ўсё —
Ад гузіка да сусвету
Поўнілася табой,
Пахам тваіх валасоў,
Гукам слоў,
Ціхім смехам,
Тваім і маім існаваннем...
Няўжо не каханне!
Няўжо, як заўсёды,
Заўтра настане!
Лета закаласіцца!
І нехта
Твае суніцы
Вуснамі будзе зрываць,
Як і ты ў той ліпень!
А помніш наш лівень!
Няўжо не помніш:
Кроплі, нібы гарошыны,
Білі па твары пякуча...
Госпадзі,
Як балюча.
Добры дзень!
І зноў пакута:
Як назваць цябе
Цяпер!
Словы супраць.
Нараджаючыся,
Халоднымі цаглінамі кладуцца
на паперу,
Вырастаюць у будынак праўды
Без цяпла,
Дзе ў кожным вугле
Прамавугольная дрэмле ўсмешка.
Людзі, звяры і птушкі,
Радзіма мая —
Усё, з чаго складаецца
сутнасць!

Скажыце,
Чаму памірае каханне!

* * *

Каханая заснула.
Ля шчакі
я адчуваю
цеплыню дыхання,
і вечнай таямніцаю
кахання
бялее ў цемры
лінія рукі.

**Мікола САЗОНАЎ**

* * *

Я вярнуўся да свайго народа;
блудны сын, куды я уцякаў!
Прочкі збег і думаў — вось свабода,
а цяпер малю: няволю дай!

Дай няволю, дзе сіло — крыніцы,
кандалы — Палесся сіняпад,
вартаўнік — касцельная званіца
і турмою — мовы Цёткі сад.
Я вярнуўся...

**ня ў савецкай літаратуры. Вы не апісальнік гарадскога быту...**

— І прадоўжу: я не «вяскоўшчык», не адчайны русафіл. Але я рускі па каранях. І паняцце радзімы для мяне не звязваецца толькі з той вёсачкай, дзе я бываў дзіцем.

Прызнаюся: я не люблю боек, не люблю ўсялякіх пераборaў і «тапара». І сваім думкам, звернутым да шырокай аўдыторыі, ніколі не стараюся надаць прарочага сэнсу. Хаця, вядома, мне бывае прыемна, калі ў майго пункту гледжання з'яўляюцца шматлікія прыхільнікі, як гэта было, калі ў адным з артыкулаў я напісаў, што веру ў пастаноўку пытання аб рэстаўрацыі храма Хрыста Спасіцеля.

Я не думаю, што пісьменнік павінен узурпіраваць права ўсіх вучыць. Творчасць многіх літаратараў значна глыбейшая, чым іх выступленні па грамадскіх пытаннях. Я не лічу, што пісьменнік — гэта адзіная соль зямлі. Мы вельмі экстатычна іншы раз нясём на сабе месіянскую ролю. Трэба служыць, а не адчуваць сябе месіяй!

Я веру ў сілу слова. Але дзейсным яно будзе толькі тады, калі думка будзе трапна выказана. Цяпер мы на шляху фарміравання і нашай грамадскай думкі, і сваіх задач. А гэта ўжо пачатак дзеяння!

**— Думаю, для чытачоў будзе цікава, што вы за даволі невялікі тэрмін з карэспандэнта газеты «Московский комсомолец» выраслі ў галоўнага рэдактара гукавога часопіса «Кругозор»», а затым у галоўнага рэдактара рэдакцыі літаратурна - драматычных перадач Дзяржтэлерадыё. Але пройдзе яшчэ некаторы час, і нечакана для многіх вы добраахвотна пакінеце гэта сваё «генеральскае месца»...**

— Я з дзяцінства ведаў, што буду пісьменнікам. Хаця ў мяне абсалютна нелітаратурная сям'я. Нарадзіўся я ў Маскве. Але сваімі землякамі лічу жыхароў вёскі, адкуль родам мая маці і дзе я хлапчуком быў у гады вайны ў эвакуацыі. Маскву не люблю. Мне бліжэй правінцыяльныя, маленькія гарады. Я не лічу, што сталіца можа дапамагчы чалавеку авалодаць культурай. Усё тое, з чаго мы складаемся як асобы, набываецца ў дзяцінстве, у юнацтве.

Скончыў я філфак Маскоўскага універсітэта. Ён аказаў на мяне вялікі ўплыў. я слухаў там бліскучых прафесароў. Сёння гавораць, што ўзровень ведаў, які дае МДУ, моцна знізіўся, але я так не думаю. Справа ў студэнтах.

І я ў студэнцкія гады не скарыстоўваў усіх магчымасцей, хаця па натуры чалавек працавіты і адказны. Унутраны стан майго героя Венечкі спісаны, бадай, з мяне — я любіў працаваць. А начальнікі—людзі разважлівыя, яны заўсёды бачаць, за чыёй спіной ім будзе зручней. Свой рост па службе тлумачу менавіта працавітасцю.

Працуючы на Дзяржтэлерадыё, я заўсёды помніў: я пастаўлены сюды для таго, каб абараняць інтарэсы слухачоў. Таму і цяпер цэлы шэраг падрыхтаваных пры мне перадач працягвае ісці. Прызнаюся: гэты перыяд у маім жыцці быў адзін са шчаслівых

Але ўсё ж я пакінуў Дзяржтэлерадыё, таму што зразумеў, што хачу і магу пісаць...

**— Поспех і вядомасць вам прынёс «Имитатор». Вы першы шчыра і адкрыта ўказалі грамадству на новую сацыяльную хваробу...**

— Яе карані ў недасканаласці нашай палітычнай канструкцыі, якую мы сёння імкнёмся выправіць. Недасканаласць гэта крыецца ў маральна - этычным плане. Мы вельмі доўга ўбівалі, што ўсе роўныя і кожны можа быць усім. А гэта ж не так. Гэта па-за прыродай сацыялізму, па-за той навукай, якую стварыў Маркс. Не могуць быць усе роўныя. У кожнага з нас праца рознай кваліфікацыі. Дзякуючы лозунгу «Мы ўсе роўныя, адзіныя», мы перасталі адчуваць свае мікрасацыяльныя рамкі. Імітатарства — хвароба, звязаная з сацыяльнай дэмагогіяй, з сацыяльнай некультурнасцю. Эпоха «застою»... Сказана даволі мякка. Гэта быў час ваяўнічага наступу дэмагогіі на правы і абавязкі грамадзян. Пад паняццем «застой» падразумяваецца нешта накшталт балота, у якім штосьці яшчэ можа плаваць. Нічога падобнага. Гэта было па-вар'яцку агрэсіўнае асяроддзе, якое развальвала грамадства.

Але ў тым жа грамадстве працягвала жыць творчая інтэлігентная думка. Да кнігі звярталіся тыя, хто не хацеў займацца імітацыяй сацыяльнай актыўнасці. Сёння цікавасць да кніжнага слова зноў расце. І, думаю, яна будзе развівацца. На мой погляд, зварот да тэлебачання з яго публічнасцю слабее, пачынае прыядацца рэзка публіцыстычны часопісны напрамак. Якімі бліскучымі ні былі б артыкулы, ужо праз месяц з цяжкасцю прыпамінаеш аб іх палажэннях, сістэмах доказаў. А мастацкі вобраз — застаецца!

**— У часопісе «Знамя» толькі што выйшаў ваш новы раман «Соглядатай». У чым яго галоўная думка?**

— У ім я паспрабаваў даследаваць, адкуль з'яўляліся ў нашым грамадстве каты, здраднікі, як атрымалася, што адны героі былі катамі для іншых, як узнікла трагічная сувязь, што звязвала тых, хто абвінавачваецца, і тых, хто абвінавачвае... Адзін з падзагалоўкаў рамана «Эсталогія» — навука аб мёртвых. У свой час мы прайгралі сваіх нябожчыкаў. Мы прайгралі цвет нашай культуры і навукі. І чым лепш умацуем мы нашы святыя магілы, тым большыя нашы магчымасці звароту да будучыні.

**Гутарку вяла Таццяна АНДРЫЯСАВА.**



**Хто з дзяцей не зачытваўся цудоўнай аповесцю А. Ліндгрэн «Пэпі — Доўгая Панчоха»! Нядаўна юныя гледачы зноў сустрэліся з яе героямі ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР. Тут адбылася прэм'ера мюзікла У. Дашкевіча «Пэпі». Лібрэта напісаў Ю. Міхайлаў, рэжысёр-пастаноўшчык — Б. Утораў. Вясёлы спектакль вельмі спадабаўся дзецям.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля. Каваль — М. СТАРАВОЙТАЎ, паліцэйскі — заслужаны артыст УССР А. РАНЦАНЦ.**

**Фота У. ШУБЫ.**

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# ФІЛАТЭЛІЯ ПРА СТАЛІЦУ

Наклееная на канверт маленькая паштовая марка не ведае віз і межаў. Яна, беспераШкодна перасякаючы краіны, кантыненты і моры, імчыцца на самалётах і сабаках, у паштовых вагонах і на караблях, каб паведаміць людзям пра многае цікавае. Шмат паштовых выпускаў расказваюць пра сталіцу Савецкай Беларусі — Мінск.

За сваю шматгадовую гісторыю горад неаднаразова разбураўся, але кожны раз адраджаўся з попелу і руін.

Першае пісьмовае паведамленне аб Мінску сустракаецца ў «Повести временных лет» пад 1067 годам. Пасяленне Менеск упамінаецца тут у сувязі з міжусобнымі разладамі, якія прывялі да бітвы паміж полацкім князем Усяславам і сынамі кіеўскага князя Яраслава Мудрага. Аб гэтай бітве — а адбылася яна на рацэ Нямізе — гаворыцца і ў помніку старажытнарускай літаратуры «Слова аб палку Ігаравым». На думку многіх сучасных гісторыкаў, адным са складальнікаў «Повести временных лет» быў старажытнарускі летапісец Нестар. Маркі, канверты, спецыяльныя штэмпелі, прысвечаныя Нестару і помніку старажытнарускай літаратуры «Слова аб палку Ігаравым», і адкрываюць своеасаблівы філатэлістычны летапіс Мінска.

У 1967 годзе шырока адзначалася 900-годдзе беларускай сталіцы. У гонар юбілею была выпушчана паштовая марка, на якой Я. Тарас паказаў цікавы архітэктурны ансамбль сучаснай Прывакзальнай плошчы сталіцы, і тут жа побач мастак адлюстраваў другія вароты — з грубых бярвенняў, якія стаялі на Замкавай гары 900 гадоў таму назад каля ўезда ў старажытны Менеск.

Да 900-годдзя горада было выдадзена некалькі мастацкіх канвертаў, на якіх адлюстраваны вуліцы і плошчы горада, яго архітэктурныя помнікі.

Важны крок па стварэнню партыі рабочага класа ў Расіі быў зроблены ў Мінску ў сакавіку 1898 года на I з'ездзе РСДРП. Гістарычны з'езд знайшоў сваё адлюстраванне ў філатэліі: выпушчана некалькі канвертаў, на якіх паказаны Дом-музей I з'езда РСДРП, юбілеям з'езда прысвечана некалькі спецыяльных штэмпеляў.

На многіх канвертах і паштовых картках — помнік М. Багдановічу, музей Я. Купалы, будынак тэатра оперы і балета, кінатэатры «Кастрычнік» і «Партызан», Дом кіно і многія іншыя адметныя месцы беларускай сталіцы.

Да 10-й гадавіны вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў у Мінску быў адкрыты манумент Перамогі. Гэты велічны помнік таксама неаднаразова быў паказаны на марках, паштовых картках і канвертах, спецыяльных штэмпелях. Адлюстраваны ён і на марцы дзяржавы Манака. У 1964 годзе ў Мінску быў дадзены старт 34-му міжнароднаму аўтаралі. На марцы месца старта — сталіца Савецкай Беларусі горад Мінск — пазначана манументам Перамогі. Цікавая гісторыя гэтага помніка. Ідэя яго стварэння нарадзілася ў грозным 1941 годзе. Архітэктар Г. Заборскі, як і ўсе савецкія людзі, верыў у нашу перамогу. Ён ляжаў у шпіталі і рабіў накіды будучага помніка. А ў 1948 годзе, пасля аб'яўлення Усесаюзнага конкурсу на праект помніка Перамогі ў Мінску, ён вярнуўся да сваіх накідаў і разам з архітэктарам Б. Каралём дапрацаваў праект. І яшчэ адна цікавая дэталь у гэтай гісторыі. Граніт на абліцоўку помніка прывезлі з Украіны, мазаіку для ордэна Парамогі, які вянчае абеліск, прыслалі з Ленінграда.

Сталіца рэспублікі Мінск за выдатныя заслугі перад Радзімай, мужнасць і гераізм у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі, за вялікую ролю ў развіцці ўсенароднага партызанскага руху і ў азнаменаванне 30-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў удастоена ганаровага звання «Горад-герой». Некалькі мастацкіх паштовых канвертаў з надпісам «Горад-герой Мінск» і спецыяльны каляндарны штэмпель, які прымяняўся на мінскім паштамце, расказваюць пра гэта.

У паштовых выданнях — марках, канвертах, спецыяльных штэмпелях — знайшлі сваё адлюстраванне міжнародныя, усесаюзныя і рэспубліканскія кангрэсы, канферэнцыі, сімпозіумы, кінафестывалі і іншыя падзеі, якія праходзілі ў Мінску.

Сталіца Беларусі — горад вялікага спорту. У дні Алімпіяды-80 на мінскім стадыёне праходзілі спаборніцтвы па футболу, а на паштамце прымяняліся два спецыяльныя штэмпелі з надпісам «Мінск-алімпійскі». Паштовыя выпускі прысвечаны Спартакіядам народаў СССР і Спартакіядам БССР.

«Філатэлістычная біяграфія» Мінска была б няпоўнай, калі б мы не ўпамянулі пра паштовыя выпускі, прысвечаныя архітэктурным ансамблям горада, славутым мінчанам, дзеячам навукі і культуры, дзейнасць і жыццё якіх звязана з Мінскам. Гэта Пётр I і дзекабрысты, украінская паэтэса Леся Украінка і польскі кампазітар С. Манюшка, рэвалюцыянерка А. Стасава і М. Фрунзе і многія іншыя.

**Леў КОЛАСАЎ.**

*ПРАДСТАЎЛЯЕМ ЧЭМПІЁНА*

Такое не забываецца: чэмпіянат Еўропы па бегу на каньках завяршыўся перамогай мінчаніна Эдуарда Матусевіча. Яму прадказвалі першае месца і на чэмпіянаце свету. Але прыкрае падзенне на адной з дыстанцый перашкодзіла дасягнуць запаветнай мэты. Таленавіты беларускі спартсмен пакінуў спорт.

Прайшло амаль дваццаць гадоў. За гэты час не толькі на міжнародных, але і на ўсесаюзных спаборніцтвах ні адзін канькабежац нашай рэспублікі не ўваходзіў у лік прызёраў.

І, нарэшце, у гэтым відзе спорту з'явілася ў Беларусі новае імя: Ігар Жалязоўскі. Пачынаў хлопец у Оршы. Спачатку перамагаў на гарадскіх спаборніцтвах, пасля на абласных і рэспубліканскіх. Пераехаў у Мінск. А трэніроўкі ў вопытных трэнераў Н. Гапеенкі і В. Муратава дапамаглі юнаку вырасці ў спартсмена экстра-класа.

Ігар стаў спецыялізавацца па спрынтарскаму бегу на каньках. І дамогся многага. Літаральна на кожным афіцыйным спаборніцтве ўстанаўліваў калі не сусветны, то ўсесаюзны рэкорд.



Лёгка выйграў першынство свету 1985 года. У наступным сезоне паўтарыў поспех. Друк таго часу не скупіўся на эпітэты ў адрас мінчаніна: «савецкая ракета», «рускі метэор». Яму прадказвалі доўгае «царстваванне на канькабежным троне». Але выйшла так, што ледзь не пакінуў спорт яшчэ ў маладыя гады, як гэта зрабіў Эдуард Матусевіч.

У 1987 годзе Жалязоўскі захварэў. Пасля, яшчэ не набраўшы спартыўную форму, выраШыў прыняць удзел у міжнародных спаборніцтвах і... прайграў некалькі з іх.

— Нават «бронза» на Алімпійскіх зімніх гульнях не прыдала мне ўпэўненасці, — расказвае Ігар Жалязоўскі. — А тут яшчэ сталі біць мае ж рэкорды свету і наш Павел Пегаў, і Ўвэ-Йенс Май з ГДР... Падумалася, што пік маёй спартыўнай кар'еры прайшоў. Хацеў, як кажуць, павесіць канькі на цвік. Нямала спатрэбілася сілы волі, каб пераадолець гэта жаданне.

І Ігар Жалязоўскі яшчэ з большым стараннем трэніруецца. Сёлета ў студзені праходзіла першынство СССР на катку Медэа. Беларускі спартсмен паказвае высокія вынікі і перамагае ва ўсіх забегах.

А пасля, у канцы лютага, едзе ў Галандыю на першынство свету. І ўпэўнена заваёўвае свой трэці (такога поспеху яшчэ ніхто не дамагаўся) лаўравы вянок чэмпіёна. Ігар Жалязоўскі атрымлівае тры залатыя з чатырох медалёў. І толькі аднойчы, на дыстанцыі 500 метраў, узнагароджваецца «бронзай». Прычым, пераможная сума беларускага канькабежца ў мнагабор'і — 145,945 ачка — новае сусветнае дасягненне.

*З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ*

## ЛЕПЕЙ У СВАЁЙ МАТУЛЬКІ




**Лепей у сваёй матульк**і
**За прыпечкам есці,**
**Чым з нялюбым, нехарошым**
**За столікам сесці.**

**Ой, паслала б мяне маці**
**Усе горы капаці,**
**Чым з нялюбым, нехарошым**
**Увесь век гараваці.**

**Тыя гаранькі капаўшы,**
**Сяду, адпачыну,**
**А з нялюбым, нехарошым**
**Навекі загіну.**

# ХАРАСТВО І НЕПАЎТОРНАСЦЬ

Легендамі і паданнямі пра кветкі, асабліва лекавыя, цікавяцца людзі здаўна. Яшчэ Францыск Скарына больш за чатырыста гадоў назад прымаў удзел у арганізацыі Каралеўскага батанічага саду ў Празе і лічыў сябе «ў лекавых навуках доктарам». А вядомая пісьменніца Эліза Ажэшка вельмі цікавілася лекавымі кветкамі, якія ўжывалі знахаркі. Яна падарожнічала па Гродзеншчыне, распытвала знахарак, збірала народныя назвы кветак і траў. Ёю былі сабраны гербарый і шмат народных назваў кветак. Свае назіранні змясціла ў вялікім артыкуле пад назвай «Людзі і кветкі над Нёманам».

З дзяцінства і мы захапляемся рознымі раслінамі, кветкамі, іх харaством, непаўторнасцю. Цікавыя і трапныя назвы іх часам гучаць, як пачатак легенды ці падання. Калі, напрыклад, глядзім на званочак, то верым: ён абавязкова некалі звініць... Нездарма ў народзе гавораць: расліны самі выбралі сабе імёны.

У новую кнігу Уладзіміра Аляхновіча «Легенды кветак» ўвайшлі кароткія замалёўкі аб найбольш распаўсюджаных кветках у нашай рэспубліцы. Вялікую ўвагу пісьменнік удзяляе тым раслінам, якія занесены ў Чырвоную кнігу БССР. Гэта, напрыклад, пралеска, белы гарлачык, баранец звычайны і палушнік азёрны, наперстаўка, купальнік, венерын чаравічак, званочак.

Кожная легенда пра тую ці іншую кветку — гэта маленькае апавяданне, у аснове якога ляжыць народнае паданне пра нейкую незвычайную расліну.

Так, паданне пра сялянскага хлопца Цімоха і яго сяброў, якія паўсталі супраць мясцовага князя, легла ў аснову легенды пра суніцы: «Добра ўзброеныя княжацкія войскі атрымалі перамогу. Упаў, схапіўшыся за грудзі, мужны воін Цімох. Сяляне пахавалі героя на сонечнай лясной паляне ў адной магіле. Праз нейкі час на магільным пагорку з травы на сцяблінах падняліся ярка-чырвоныя ягады, якія нагадвалі маленькія сэрцайкі. Здавалася, выйшлі з зямлі сэрцы мужных паўстанцаў. І расліны, на якіх з'явіліся ягады-сэрцы, людзі назвалі сумніцамі, бо вельмі сумавалі па загінуўшых героях.

Пазней гэтыя расліны сталі называць больш проста — суніцы».

Карысна і тое, што перад кожнай легендай Уладзімір Аляхновіч дае і навуковую даведку пра кветку: дзе расце, як называюць у розных мясцовасцях, ці выкарыстоўваюць у медыцыне і г. д.

Кніга «Легенды кветак» будзе карыснай усім, хто цікавіцца мастацкай літаратурай, батанікай і гісторыяй свайго краю.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# БОМБА Ў ЦЭНТРЫ ГОРАДА

50-кілаграмовую авіяцыйную бомбу сапёры ўзарвалі... у самым цэнтры Мінска. Але жыхары суседніх раёнаў не пачулі гулкага рэха...

Работы на будаўніцтве новай паліклінікі па вуліцы Мяснікова ішлі ў гэты дзень сваім парадкам. Няспынна рухаліся гружаныя пяском і цэглай машыны, напружвалі стальныя стрэлы экскаватары. Ідучы на абед, будаўнікі заўважылі ў толькі што выкапаным катлаване ржавы жалезны кругляк. Бомба!

Аператыўна прыбылі на месца здарэння піратэхнікі. Дэталёвы агляд паказаў: транспарціраваць смяротную знаходку за межы горада немагчыма — узрывальнік у баявым становішчы. Вопыт падказаў адзінае выйсце: знішчыць бомбу на месцы. Але ж побач жылыя дамы, абутковае аб'яднанне «Прамень»... Людзей у тэрміновым парадку эвакуіравалі з небяспечнай зоны. Некалькі гадзін працягвалася поўная рызыкі і небяспекі работа. Але мужнасць і майстэрства сапёраў перамаглі. Бясшумна знішчаная пад тоўшчай зямлі, бомба нікому не прынесла шкоды.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 276